НАША НІВА

*Беларуская газэта*

*Вільня №10 (1993)*

**ФРАНЬЦІШАК ЭН.** «Гэты тэкст паўстае зь неразуменьня таго што ёсьць беларускім горадам. Што нас чакае наперадзе?» Urbs et orbis idem?

**ЛІБЭРАЛІЗМ І СУВЭРЭНІТЭТ** Артыкул напісаны для беларусаў, якія, гледзячы на канторы, дзе камуністы сядзяць, як раней, думаюць, што вось тут галоўная небясьпека. Не, не тут. Небясьпека гэтая міне разам з выбарамі, хоць датэрміновымі, хоць у тэрмін. Ад лібэральнай балбатні, разьлічанай на аўдыторыю, чый "адрес Советский Союз", галава будзе балець яшчэ даўжэй, чым ад камунізму»

**ЛОРЭНС ДАРЭЛ ЮСТЫНА** Пачатак першага раману тэтралёгіі прызнанага ў сьвеце пісьменьніка — упершыню па-беларуску на старонках гэтага нумару *НН*.

# ГОД ПАСЬЛЯ МААСТРЫХТУ

## ЭЎРАПЕЙСКІ НУМАР НН



*Здымак Анатоля Клешчука*

* * *

*На гэтай... паперы я не*
*змагу выказаць усяго*
*што хачу*

*Я не змагу перадаць усеи*
*сілы прагі*
*зрабіцца віхурай закруціцца*
*закруціць вакол сябе*
*усе-ўсе а пасьля промнем*
*кінуцца у прастору. І ля*
*цець, ляцець бясконца*
*павялічваючы хуткасьць*

*Я не змагу перадаць усеи*
*сілы прагі ня толькі*
*супыніць імгненьне, але и*
*зрабіць з рэчаіснасьці*
*кропку каб памяншаць*
*памяншаць яе да*
*бясконцасьці*

*Я не змагу перадаць усёи*
*прагі спажыць, ператравіць*
*гэты Сусьвет каб пасьля*
*стварыць новы и выплес*
*нуць яго у Нішто каб ен*
*ізноў быў такі бясконцы*
*як заўжды Мои*

*І няхаи ен сутыкнецца зь*
*іншым Сусьветам Зь Яе*
*Сусьветам*

*І будзе Наш Сусьвет*

*А больш нічога*

Севярын К

# АЛЕСЬ РАЗАНАЎ

ВЭРСЭТЫ

## У каморы

У каморы, на услоне, я заўважаю поўныя ночвы фарбаў: белай чырвонай зялёнай, сіняй...

Яны ня зьмешваюцца між сабои і вабяць мой позірк і выклікаюць вялікую прагу — хоць і ня ведаю што — маляваць

Я адчыняю шуфляды заваленыя рознаю драбязою, і калі выпадкова знаходжу ў адной зь іх стары але спраўны, яшчэ не ужываны пэндзаль радуюся што ўсё атрамлівасцца ікурат

Аднак фарбы — ці яны перастоялі ці перасохлі — насуперак маім спробам ня хочуць брацца да пэндзля і быццам гумовыя сьцягваюцца назад.

Ну не, я ўсё роўна не адступлюся, ну не я ўсё роўна зраблю па-свойму, я намалюю ўсё роўна сваю карціну, і, запусьціўшы пэндзаль на ўсю даўжыню дзяржальна ўглыб фарбаў, пачынаю іх перамешваць-варушыць

І вось уся маса ў ночвах устрывожылася заварушылася, захадзіла, і нутры яе пачалі выварочвацца, падымацца наверх паўзьці — быццам жывыя яны!.. — вантробы, зь белай чырвонаю сіняю афарбоўкай — мне на зьдзіўленьне і мне на жах.

Я кідаю пэндзаль і, спатыкаючыся аб начыньне, зваленае на падлозе, уцякаю з каморы прэч — ад моташных гэтых ночваў і ад карціны якую намерваўся намаляваць

*Працяг — старонка 4*

*Малюнак Дзяніса Раманюка*



